# НАВІНЫ



БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"
9--10'1989 6 жніўня.

---

Гэты "мёртвы" сезон адпачынкаў для Менску, для Беларусі нават вельмі "жывы". Мітынгі, забастоўкі... Але абуджэньне народу не выклікае радасьці. Бо нагадвае балючае абуджэньне цяжка хворага, які столькі гадоў ляжаў пад наркозам, у забыцьці. I усё ж лепейназіраць гэта, чымся агонію і сьмерць. Нават калі ў хворага народу ёсьць толькі адзін, самы ненадзейны, шанц.

Гутаркі паўсюль пра талоны на мяса, пра тое, што доля менскага забесьпячэньня адпраўленая забастоўшчыкам-гарнякам, а мы... А мы будзем есьці нашыя радыяактыўныя прадукты, -- так выказаўся ў прамове на мітынгу ў Менску старшыня Сойму БНФ Зянон Пазьняк.

Гэты шматтысячны мітынг, рэпартаж зь якога пачынаецца на пятай старонцы "Навінаў", адбыўся 26 ліпеня. Дваццаць шэсьць! Фатальная лічба. 26 красавіка здарылася Чарнобыльская катастрофа. 26 красавіка -- дзень нараджэньня Мікалая Сьлюнькова, тагачаснага 1-га сакратара ЦК КПБ... Для беларускага народу гэтыя "імяніны" 1986-га цягнуліся яшчэ з тыдзень -- калі мы, наўмысна неінфармаваныя, хадзілі па першамайскіх дэманстрацыях, запаўнялі сонечныя пляжы на Дняпры, Сажы, Прыпяці і цяністыя палескія лясы -- аж пакуль не даведаліся, што трэба сядзець дома і зачыняць форткі...

Тры гады мы чакаем наступстваў тых "імянінаў" і верым, што абыйдзецца, што рак, лейкемія ды іншыя пошасьці абмінуць нас і нашых дзяцей, што "пахмельле" ня будзе сьмяротнае...

## ● ХРОНІКА

**М е н с к, 26 л і п е н я.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР выбраны новы прэзідэнт Рэспублікі -- Мікалай Дземяньцей, які працаваў сакратаром ЦК КПБ. Выбары прайшлі ў застойнай традыцыі -- без альтэрнатыўных кандыдатураў, адкрытым галасаваньнем, без аніводнае крытычнае заўвагі ў адрас прэтэндэнта, неяк амаль па-сямейнаму. Між тым, у сваёй прамове М.Дземяньцей выявіў нядольнасьць афарміць у словах уласную думку, негатоўнасьць выказаць асабістае меркаваньне, урэшце нават гугнявасьць. На пытаньне дэпутата Г.Ерамеева пра стаўленьне да выбараў ад грамадскіх арганізацыяў, акруговых сходаў, пра адносіны да БНФ "Адраджэньне" прэтэндэнт даў зразумець, што свайго стаўленьня ня мае і што ён ня супраць нефармальных арганізацыяў, якія не хаваюцца (?). На пытаньне, чаму ён не карыстаецца беларускай мовай (дарэчы, руская мова М.Дземяньцея таксама пакінула надзвычай цяжкое ўражаньне) новы прэзідэнт Беларусі ад-

казаў, што калі трэба (?), ён гатовы карыстацца.

Падобна, што мы зноў атрымалі кіраўніка з тых, якія ніколі не памыляюцца і ўвогуле ня маюць ніякіх недахопаў; што інтэлект рэспубліканскай улады і надалей будзе замяняцца самадавольствам. Зрэшты, новы прэзідэнт, здаецца, наогул выбраны часова...

Пакуль сесія згодна галасавала за М.Дземяньцея, перад Домам Ураду разгортвалася чарговая сцэна з жыцьця Вандэі. А 9.00 прадстаўнікі БНФ, выконваючы даручэньне ўдзельнікаў мітынгу 26 ліпеня ў Менску і Сойму "Адраджэньня", перадалі ў Прэзідыум ініцыятыўны праект Закона аб выбарах, Зварот Сойму БНФ да дэпутатаў і рэзалюцыі мітынгу. Яшчэ шэраг дакументаў дэлегацыя мелася перадаць народнаму дэпутату СССР С.Шушкевічу.

Але дарма сустрэча была прызначаная ля "парадного подъезда", пад самымі "панскімі вачыма". Не пасьпелі прамінуць лічаныя хвіліны, як сябры БНФ атрымалі ад падпалкоўніка МВД Старавойтава катэгарычны загад: "Очистить территорию особой зоны!". "Як ачысьціць? Што за "особая" зона?" -- адказам на гэтыя пытаньні было сьпецпадразьдзяленьне міліцыі, заломваньне рук і балявыя прыёмы. Міжвольным сьведкам расправы стаў народны дэпутат СССР Ю.Воронежцаў, але і ён сутыкнуўся з панска-міліцэйскай логікай: "Я вижу, что вы депутат, вот и идите на сессию, а этих я отсюда прогоню". Пад час канфлікту быў затрыманы сябра Сойму БНФ Сяргей Міхноў. Яго даставілі ў Маскоўскі райаддзел міліцыі, склалі пратакол і тэрмінова перадалі справу ў народны суд. Але ў судзе слуханьне справы было адкладзенае, паколькі ў пратаколе, складзеным капітанам Балашчанкам, выявіліся фактычныя, юрыдычныя і граматычныя памылкі.

Адпаведную заяву пра гэтыя падзеі сябры БНФ падалі ў сакратарыят сесіі. Пазьней С.Міхноў зьвярнуўся ў гарадскую пракуратуру з патрабаваньнем узбудзіць крымінальную справу супраць падпалкоўніка Старавойтава за перавышэньне ўлады згодна артыкулу 167 Крымінальнага кодэксу БССР і атрымаў накіраваньне на судмедэксьпертызу.

Цікава заўважыць, што ніводзін з дакументаў, перададзеных дэлегацыяй БНФ у Прэзідыум, ня быў распаўсюджаны на сесіі.

**Н а р о ў л я.** Тры гады ад жыхароў гэтага невялікага беларускага горада рэспубліканская ўлада адкуплялася "грабавымі" грашыма і фармальнай дэзактывацыяй. І тры гады нараўлянцы цярпліва чакалі сапраўднай ўвагі да іхняй Чарнобыльскай бяды. Тым часам у дзяцей разьвівалася лейкемія, павялічвалася шчытападобная залоза, у горадзе пачасьціліся інфаркты і псіхічныя захворваньні. І вось прыйшоў момант, калі ня вытрымала нават беларуская цярплівасьць. 26 красавіка ў Нароўлі адбыўся мітынг, дзе гаварылася, што на сродкі, выдаткаваныя на дэзактывацыю, даўно можна было б пабудаваць Новую Нароўлю ў "чыстым" месцы; што ў заражаным радыяцыяй горадзе няма вады -- дзяцей няма дзе памыць, але замест помпавай станцыі будуецца велізарная школа мастацтваў (каму яна патрэбная, калі дзецям наогул нельга жыць у горадзе?); што ніхто не папытаўся ў людзей, ці хочуць яны тыя 35 бэраў... Свае патрабаваньні нараўлянцы выклалі ў рэзалюцыі мітынгу. Два месяцы раённыя ўлады ўпарта ігнаравалі іхнюю рэзалюцыю. У сувязі з гэтым 21 чэрвеня ў Нароўлі распачаўся страйк (забастоўка). Чатыры дні не працавалі ўсе прадпрыемствы горада. Але замест таго, каб прыслухацца да канкрэтных патрабаваньняў людзей, раённыя ўлады кінуліся шукаць завадатараў і панікёраў, чым канчаткова падарвалі да сябе ўсялякі да-

Таму мы, удзельнікі мітынгу 26 ліпеня 1989, патрабуем:

1. Стварыць кампетэнтную камісію з удзелам народных дэпутатаў СССР і БССР, вучоных і юрыстаў для аналізу дзяржаўных мераў па пераадоленьні вынікаў аварыі ЧАЭС у Беларусі і назваць асобаў, адказных за шматлікія памылкі, нездавальняючы экалагічны стан у забруджаных раёнах і непрыняцьце патрэбных мерапрыемстваў па радыяцыйнай абароне насельніцтва, медыцынскай дапамозе і стварэньні неабходных санітарна-гігіенічных умоваў працы і жыцьця.

2. Падтрымаць пазіцыю беларускіх вучоных у вызначэньні мінімальнай ступені забруджанасьці тэрыторыі, прыдатнай для пражываньня.

3. Распрацаваць графік і адсяліць да 1991 людзей з моцна заражаных мясьцінаў Магілеўскай, Гомельскай і Брэсцкай абласьцей, дзе забруджанасьць дасягае 15 Кюры/км кв., у адносна чыстыя раёны Рэспублікі.

4. Тэрмінова спыніць вытворчасьць сельскагаспадарчай прадукцыі ў радыяцыйна заражаных раёнах Беларусі.

5. Усім жадаючым пакінуць забруджаныя раёны выдаць дазвол на выезд і атрыманьне жыльля ў іншых вобласьцях Рэспублікі з адпаведнай кампенсацыяй матэрыяльных стратаў.

6. Скараціць пастаўкі сельскагаспадарчай прадукцыі ў агульнасаюзны фонд з тым, каб ею забясьпечвалася перш-наперш насельніцтва у радыяцыйна забруджаных раёнах, і спыніць будаўнічыя работы за межамі Рэспублікі, каб накіраваць дадатковыя магутнасьці на стварэньне жыльля для насельніцтва, што адсяляецца з гэтых раёнаў.

7. Вярхоўнаму Савету БССР арганізаваць кампетэнтную камісію дзеля ацэнкі поўнага аб'ёму эканамічных і сацыяльных стратаў, нанесеных БССР у выніку аварыі на ЧАЭС і патрабаваць ад Міністэрства атамнай энергетыкі і прамысловасьці СССР кампенсаваць страты насельніцтва Беларусі, нанесеныя ў выніку Чарнобыльскай аварыі.

8. Прапанаваць кіраўніцтву БССР адкрыць валютны рахунак і зьвярнуцца да міжнародных арганізацыяў і грамадскасьці з заклікам аб дапамозе беларускаму народу ў пераадоленьні вынікаў Чарнобыльскай катастрофы.

9. Зрабіць агульнадаступнай інфармацыю, якая датычыцца вынікаў Чарнобыльскай катастрофы, без усялякіх выключэньняў.

10. Утварыць пастаянную грамадскую камісію пры Вярхоўным Савеце БССР для кантролю эфектыўнасьці мераў і назіраньня за становішчам у забруджаных зонах Рэспублікі.

Р э з л ю ц ы я 2.

Мы, жыхары Менска і прадстаўнікі ад вобласьцяў БССР, сабраўшыся на мітынг "Праблемы экалогіі ў Беларусі і выжываньне народу", лічым, што небясьпечнае для жыцьця людзей становішча, якое склалася ў Рэспубліцы праз тры гады пасьля Чарнобыльскай катастрофы, стала магчымым з-за бязьдзейнасьці кіраўніцтва Рэспублікі і вобласьцяў, няздольнасьці і нежаданьня вырашыць гэтую праблему і дапамагаць народу ў бядзе.

Утойваньне зьвестак ад народу пра радыяцыйнае становішча, пра здароўе і лёс людзей зьяўляюцца злачынствам супраць нацыі. Кіраўніцтва, якое не клапаціцца пра народ, страчвае яго давер і не павінна кіраваць грамадствам.

Улічваючы набліжэньне выбараў ў Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя Саветы, мы заклікаем усіх жыхароў Рэспублікі выказаць свой недавер цяперашняму партыйнаму і дзяржаўнаму кіраўніцтву

БССР і выбраць у Саветы людзей сумленных, вартых даверу, здольных адстойваць народныя інтарэсы, патрэбы Рэспублікі, яе гаспадаркі і нацыянальнай культуры.

Народ праз сваіх сапраўдных прадстаўнікоў у Саветах, праз усталяваньне прававай дзяржавы, павінен сам кіраваць сваім жыцьцём.

Р э з а л ю ц ы я 3.

В связи с недостаточным вниманием к экологическим проблемам в Республике и резким снижением качества жизни и окружающей среды, мы, участники митинга 26 июля, требуем:

1. Доступности для населения всей экологически значимой информации.

2. Установления приоритета Республики в вопросах охраны окружающей среды и природопользования, а в качестве первого шага в этом направлении -- перевода Госкомприроды БССР в подчинение Верховному Совету и принятия в 1989 нового "Положения о Госкомитете БССР по охране природы".

3. Обязательности вневедомственной экологической экспертизы проектов новых и реконструируемых производств.

4. Значительного увеличения доли природного газа в топливном балансе предприятий теплоэнергетики, ускорения перевода внутригородского транспорта на природный газ и полного перевода автотранспорта Республики на неэтилированный бензин не позднее 1991.

5. Юридической разработки и утверждения положений "экологическое преступление", "экологический преступник".

6. Распределения экологически чистой сельскохозяйственной продукции по детским лечебным учреждениям вместо спецстоловых и спецмагазинов.

7. Проведения химической обработки зеленых насаждений и посевов только с разрешения санитарных служб и с обязательным оповещением в средствах массовой информации населения о мерах безопасности и предосторожности.

Р э з а л ю ц ы я 4.

Мы, удзельнікі мітынгу 26 ліпеня 1989, патрабуем ад Вярхоўнага Савета БССР адмяніць антыдэмакратычны, юрыдычна неабгрунтаваны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 31 сакавіка 1989, які супярэчыць Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Канстытуцыі БССР, Хельсінскім і Венскім пагадненьням у той яго частцы, якая датычыць вырабу і распаўсюджваньня друкаваных выданьняў, а таксама карыстаньня ў грамадскіх месцах сьцягамі і вымпеламі, эмблемамі і плакатамі.

Патрабуем спыніць перасьледваньні за выкарыстаньне нацыянальна-гістарычнай сімволікі беларускага народу: бел-чырвонабелага сьцягу і гербу "Пагоня". Мы не проціпастаўляем нацыянальную і гістарычную сімволіку дзяржаўнай і патрабуем у час грамадскіх і дзяржаўных сьвятаў вывешваць побач зь дзяржаўнай нацыянальную гістарычную сімволіку Беларусі.

Р э з а л ю ц ы я 5.

Дзеля ўсталяваньня публічнасьці ў Рэспубліцы і з улікам пазітыўнага значэньня для грамадства непасрэднай трансьляцыі са зьезду Народных дэпутатаў СССР, патрабуем ад Ураду БССР забясьпечыць прамую трансьляцыю пасяджаньняў сесіі Вярхоўнага Савета БССР па рэспубліканскім радыё і тэлебачаньні.

Р э з а л ю ц ы я 6.

Мы, удзельнікі мітынгу 26 ліпеня 1989, бачым у Беларускім Народным Фронце "Адраджэньне" сілу, здольную гуртаваць людзей дзеля дасягненьня ідэалаў дэмакратыі, сапраўднага народаўладзьдзя і адраджэньня нацыянальнай культуры.

Патрабуем ад Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР зарэгістраваць Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і прадставіць яму магчымасьць нармальнай грамадскай дзейнасьці.

## СТВАРАЕЦЦА РАБОЧЫ САЮЗ

5 ліпеня ў Менску на сходзе рабочых са сталічных групаў падтрымкі БНФ "Адраджэньне" была абраная ініцыятыўная група дзеля стварэньня Рабочага Саюзу Беларусі.

8--9 ліпеня ў Маскве гэтая група ўзяла ўдзел у наладжанай міжгарадскім рабочым клубам і ВЦСПС сустрэчы прадстаўнікоў рабочых рухаў: Літоўскага Рабочага Саюзу, аргкамітэту РС Латвіі, рабочых клубаў Расіі і Усходняй Украіны. Абмяркоўваліся перспектывы і формы рабочага руху ў СССР. Пэўная частка дэлегатаў з Расіі і Украіны выступіла за стварэньне Усесаюзнай асацыяцыі рабочых клубаў пры ВЦСПС, як арганізацыі-спонсару і заснавальніку. Большасьць жа дэлегатаў падтрымала ідэю стварэньня Усесаюзнага незалежнага прафсаюза. Дэлегацыі з Літвы, Латвіі і Беларусі занялі асобную пазіцыю. Выказаўшыся супраць падпарадкаваньня ВЦСПС, яны адзначылі недастатковасьць толькі прафсаюзнай формы дзейнасьці. Бо для таго, каб радыкальна палепшыць становішча рабочых, неабходна ня проста выступаць за лепшыя ўмовы найму, але дамагацца ператварэньня рабочага з наёмніка ва ўласьніка сродкаў вытворчасьці, зь якімі ён працуе, а таксама змагацца супраць свавольства кіраўнічай дзяржаўнай і партыйнай бюракратыі. Дзеля выкананьня гэтых задачаў, на думку балтыйскіх і беларускай дэлегацыяў, найлепшай формай зьяўляецца незалежная грамадска-палітычная арганізацыя рабочых, якая будзе працаваць у шчыльным кантакце з усімі дэмакратычнымі сіламі. Выступіўшы супраць стварэньня цэнтралізаванай Усесаюзнай арганізацыі, літоўцы, латышы і беларусы параілі расейцам і украінцам заснаваць свае рабочыя саюзы, а для агульнае каардынацыі дзейнасьці і абмену зьвесткамі стварыць інфармацыйны цэнтр у Маскве.

Сустрэча скончылася заснаваньнем аргкамітэту РС Расіі і выбарамі аргкамітэту дзеля падрыхтоўкі наступнай такой сустрэчы, у які ад Беларусі ўвайшоў рабочы Міхась Собаль. Быў прыняты Зварот да Вярхоўнага Савету СССР:

"Мы лічым, што разнастайнасьць падыходаў і пунктаў гледжаньня павінна стаць нормай і ў руху рабочых. Ніхто ня мае права манапольна выступаць ад імя рабочага класу. І партыі, і прафсаюзам трэба лічыцца з гэтым.

Улічваючы дэфіцыт публічнасьці, які ўсё яшчэ існуе, а таксама вострую патрэбу новых формаў абароны інтарэсаў чалавека працы, прапануем:

1. Даць у цэнтральным друку поўную інфармацыю пра рыхтаваны зьезд рабочых, прынцыпы адбору яго дэлегатаў, а таксама пра задачы і правы рабочых атрадаў аховы грамадскага парадку;

2. Прыпыніць дзеяньне нормаў працоўнага заканадаўства, ўведзеных Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савету СССР ад 4.2.1988 (даюць адміністрацыі права зьмяняць істотныя ўмовы працоўнага

дагавору бяз згоды работніка), а таксама перагледзець правіла з арт. 17 Асноваў (пра запіс матываў звальненьня ў працоўную кніжку).

Працоўныя клубы і саюзы даручаюць сваім прадстаўнікам-народным дэпутатам СССР выступіць з адпаведнымі заявамі ў Вярхоўным Савеце СССР".

12 ліпеня 1989 на сходзе рабочых зь менскіх групаў падтрымкі БНФ "Адраджэньне" прыняты Зварот да рабочых Беларусі:

## ЗВАРОТ ІНІЦЫЯТЫЎНАЙ ГРУПЫ РАБОЧЫХ

Мы зьвяртаемся да людзей працы, чые плечы стаміліся ад пажыцьцёвых "гераічных" эксьпериментаў, чыя сьвядомасьць прыціснутая ідэалагічнымі выкрутасамі, дэфіцытам і няпэўнасьцю.

Паглыбленьне эканамічнага крызісу суправаджаецца ўзмацненьнем эксплуатацыі, дыскрымінацыяй у эканамічнай, палітычнай і культурнай сферах. Мноства законаў, якія прымаюцца бяз згоды рабочых, толькі ўмацоўваюць нашу бяспраўнасьць. Паляпшэньня жыцьця рабочых ня будзе, пакуль мы не забясьпечым сабе дастатковае прадстаўніцтва паўсюль, дзе вырашаюцца пытаньні ўлады, уласнасьці і палітыкі. Наяўныя формы самакіраваньня практычна зводзяцца да вымаганьня ў нас крэдыту даверу і грашовых сродкаў узамен на абяцанкі, невыкананьне якіх абскаржваць няма дзе. Нашым прадстаўнікам у розных органах дазволена адстойваць інтарэсы рабочых толькі ў той меры, якая стрымлівае нас ад забастовак ды іншых скрайнасьцяў. У крытычных сітуацыях з намі зайграюць, кідаюць падачкі, каб не дапусьціць нашага аб'яднаньня дзеля ліквідацыі сапраўдных прычынаў крызісу -- свавольства кіраўнічай дзяржаўнай і партыйнай бюракратыі.

Само жыцьцё падказвае выйсьце: стварыць НЕЗАЛЕЖНУЮ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ РАБОЧЫХ дзеля абароны і рэалізацыі сваіх правоў і інтарэсаў.

Менавіта такую мэту паставілі перад сабой рабочыя з групаў падтрымкі Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", заснаваўшы ініцыятыўную групу Рабочага Саюзу Беларусі.

Мы лічым, што ў сваёй дзейнасьці РСБ будзе зыходзіць з наступнага:

1. Уся ўлада ў Рэспубліцы павінна належаць народу ў асобе яго дэмакратычна абраных прадстаўнікоў;

2. Грамадскія адносіны павінны палягаць на палітычным плюралізме, шматпартыйнасьці і недапушчальнасьці манаполіі на палітычную ўладу якой-небудзь арганізацыі;

3. Рэспубліканскія законы павінны быць прыведзеныя ў адпаведнасьць з нормамі міжнароднага права;

. Арганізацыі рабочых павінны валодаць правам заканадаўчай ініцыятывы, у тым ліку правам патрабаваць зьмены канстытуцыйных нормаў, якія ўціскаюць інтарэсы рабочых;

5. Рабочым павінна быць гарантаваная магчымасьць абароны сваіх правоў любымі законнымі метадамі, у тым ліку, як скрайняй мерай, забастоўкай;

6. На прадпрыемствах трэба ажыцьцявіць рэальнае рабочае самакіраваньне зь бязвыплатнай перадачай усіх вытворчых фондаў ва ўласнасьць працоўных калектываў, надзеленых правам бесьперашкоднага выхаду са складу ведамстваў;

7. Трэба зламаць сістэму адчужэньня рабочых ад культуры,

У межах пэўнай мясцовасьці некалькі групаў падтрымкі могуць утвараць тэрытарыяльную (сельскую, гарадскую, раённую) Раду БНФ, вылучыўшы ў яе сваіх упаўнаважаных, выбраць кіраўніка Рады. Узаемадачыненьні Рады і групаў падтрымкі рэагламентаваны Статутам БНФ.

Калі ва ўстанове, на прадпрыемстве, па месцы жыхарства і г.д. ужо існуюць групы падтрымкі, прыхільнікі БНФ могуць таксама ўступіць у адну зь іх, падаўшы заяву, якая разглядаецца на сходзе групы.

Рэгістрацыя новых групаў падтрымкі БНФ адбываецца:

- ва Управе БНФ (часовы адрас) -- Менск, вул. Фрунзе, 5, Дом літаратара. Тел 36-99-72 -- Алесь Емяльянаў, Мікола Міхноўскі;

- у менскіх Радах БНФ (часовыя каардынаты) --
Заводскі р-н, тэл 41-77-20 -- Юры Лабанаў;
Маскоўскі р-н, тэл. 71-83-73 -- Сяргей Антончык;
Партызанскі р-н, тэл. 64-47-40 -- Юры Дракахруст;
Першамайскі р-н, тэл. 65-84-62 -- Уладзімер Вераб'ёў;
Савецкі р-н, тэл. 61-74-47 -- Галіна Навумовіч;
Фрунзенскі р-н, тэл. 52-82-25 -- Генадзь Банкевіч;
Цэнтральны р-н, тэл. 66-78-76 -- Генадзь Коласаў.

Часовыя каардынаты менскіх Радаў БНФ Кастрычніцкага і Ленінскага раёнаў і каардынаты абласных, гарадскіх і інш. тэрытарыяльных Радаў "Адраджэньня" будуць пададзеныя пазьней.

Вінцук Вячорка

## ШТО ДУМАЕ ПРА ГЭТА НІЛ ГІЛЕВІЧ?

Уяўная "апалітычнасьць" вышэйшага кіраўніцтва Таварыства Беларускай Мовы пачынае прыносіць яму дывідэнды. У публікацыях пра Устаноўчы зьезд Фронту афіцыёз абавязкова згадвае, што ТБМ разам з Беларускім Экалагічным Саюзам "з неадабрэннем" паставіліся да БНФ ("Звязда", 16.7.1989). Натуральна, ніякай рэзалюцыі пра "неадабрэнне" ТБМ не прымала, але ж і не ўхваліла стварэньне Фронту, што, як і было прадказана, скарыстала Вандэя. Відаць, варта было б, каб наваствораныя суполкі ТБМ выказалі свае адносіны да "Адраджэньня" у асобных рэзалюцыях. Гэта тым больш патрэбна, бо хто-ніхто ўжо распачынае разбуральную працу ў нетрах самога Таварыства. Насуперак рашэньню Рады не ствараць ніякіх рэгіянальных аргкамітэтаў ТБМ, а перш наладзіць працу суполак, сакратар Менскага гаркаму Пётр Краўчанка шчыруе ў тварэньні гарадского аргкамітэту ТБМ.

## ЗА МЕЖАМІ

Л е н і н г р а д. 15--16 ліпеня пад эгідай Ленінградскае групы Міжнароднага Таварыства Правоў Чалавека тут прайшла Усесаюзная канферэнцыя незалежных грамадскіх арганізацыяў і рухаў, прысьвечаная правам чалавека ў СССР. Узялі ўдзел прадстаўнікі народных франтоў, хельсінскіх групаў ды незалежных праваахоўных камітэтаў Літвы, Латвіі, Арменіі, Азербайджану, Украіны, Карэліі, Беларусі, Уралу, Дону, Ленінграду і Масквы. Нашы дэлегаты распавялі пра гісторыю і сучасны стан дэмакратычнага руху і нацыянальнага адраджэньня на Беларусі, пра Устаноўчы зьезд БНФ, яго Праграму і Статут.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі звароты: "Да народаў СССР" з заклікам не паддавацца на правакацыі, не ўжываць гвалту пры вырашэньні міжнацыянальных канфліктаў, аб'яднацца ў барацьбе за перабудову; "Па пытаньню пакту Молатава-Рыбентропа 1939г." з асуджэньнем палітыкі падзелу сьвету, парушэньня правоў народаў і незалежных дзяржаваў таталітарнымі рэжымамі Германіі і СССР ды патрабаваньнем адмены гэтага Пакту як незаконнага.

Ф р а н к ф у р т - н а - М а й н е. 28 чэрвеня ў мясцовай газеце "Франкфуртэр Альгемайнэ Цайтунг" зьмешчаны матэрыял "Заклік да аўтаноміі на Беларусі":

"Паводле балтыйскага ўзору нарэшце таксама на Беларусі заснаваны аўтаномны рух, які прыняў назву "Адраджэньне" і імкнецца абвастрыць "этнічную сьвядомасьць" мясцовага насельніцтва дзеля захаваньня культуры і мовы. 400 дэлегатаў, абраныя лакальнымі ініцыятыўнымі групамі на Устаноўчы зьезд, вымушаныя былі ўсё ж сабрацца ў суседняй Літве. Беларускае партыйнае кіраўніцтва, якое лічыцца асабліва артадаксальным, ня дала ім дазволу на правядзеньне Зьезду ва ўласнай саюзнай Рэспубліцы. Да руху належаць 3 дэпутаты Зьезду народных дэпутатаў; самы вядомы -- пісьменьнік Быкаў. Старшынёй быў абраны археолаг Пазьняк".

М а с к в а. У газеце "Комсомольская правда" за 9 ліпеня зьмешчаны допіс карэспандэнткі Вольгі Ягоравай "На розных мовах?..", прысьвечаны Устаноўчаму зьезду БНФ "Адраджэньне". Адпраўным пунктам дзеля беспрадметных негатыўных развагаў аўтаркі паслужыла наступнае здарэньне: ".самаму нефармальнаму на сёньняшні дзень нефармалу -- сялянцы Марыі Казіміраўне Крупені... на зьезьдзе Народнага фронту не знайшлося месца".

На самой справе 70-гадовая М.Крупене (а не Крупеня, як падае "Комсомольская правда") з вёскі Пеляса Воранаўскага раёну, запрошаная Аргкамітэтам БНФ, прысутнічала на Зьезьдзе як ганаровая госьця ды захавала пра яго найлепшыя ўражаньні.

Тэндэнцыйная карэспандэнцыя В.Ягоравай прымушае нас згадаць колішнія публікацыі ў "Комсомольской правде" Я.Юферавай, дзе гэтак жа тэндэнцыйна перакручаныя факты Дзьвінскага ралі беларускіх суполак 1987 году. Бадай, ня варта далёкай маскоўскай газэце марнаваць сродкі і плошчу на такія вось "кінжальныя рэйды" сваіх журналістак, схільных да дэзінфармацыі й эмпірычнага маралізатарства.

## ● НОВЫ РАХУНАК БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

Грашовыя п а ш т о в ы я п е р а в о д ы просім накіроўваць на адрас: 232012, Вильнюс, ул. Жирмуну, 106. Сберегательн касса номер 8289/059, код банка 751627, расчетный счет 164505, сберегательная книжка номер 9671, Стеху Валентину Владиславовичу. (Рахунак адкрыты ў Літве, паколькі на Беларусі зрабіць гэта немагчыма).

---

Нумар падрыхтавалі Алесь Суша, Сяргей Дубавец, Павел Жук. Адрас для карэспандэнцыі: 220113, Менск-113, абанементная скрыня 327. Нагадваем, што без Вашых ахвяраваньняў выданьне "Навінаў" стане немагчымым. Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі і кіраўніцтва БНФ.